# Фінская — "зімняя" вайна

*(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)*

Нашы працягвалі наступаць, фіны — упарта абараняцца. Суцэльнага фронту як такога не існавала. Адна са стралковых дывізій 7-й арміі выйшла на подступы да горада Тэрыокі (зараз Зялёнагорск) і распачала тут цяжкі бой. Тэрыокі гарэў. Перад вачамі ўступаўшых у яго байцоў паўстала жудасная карціна хаосу і разбурэння. Тое, што ўцалела пасля штурмавога агню савецкай артылерыі, пры адступленні было падпалена фінскімі факельнымі камандамі. Мініравана было практычна ўсё, нават руіны.

Ці можна было хаця б падумаць, што ў гэтымператвораным у папялішча горадзе толькі што створаны новы ўрад Фінляндыі!

А маскоўскае радыё і газеты аб'явілі менавіта аб гэтым.

І зноў патрэбны тлумачэнні. Справа ў тым, што новы "прэзідэнт" Фінляндыі Отта Куусінен незадоўга да тэрыокскіх падзей меў гутарку са Сталіным, Молатавым і Мехлісам у Крамлі. Спачатку ён катэгарычна адмовіўся ўзначаліць новы "ўрад". Думаецца, што разумны і сумленны чалавек, Отта Вільгельмавіч Куусінен ад пачатку разумеў беспадстаўнасць гэтай авантуры. Да таго ж за доўгія гады работы сакратаром Выканкама Камінтэрна ён згубіў сувязі не толькі з фінскім народам, але і ў значнай меры з унутраным жыццём кампартыі краіны.

Аднак Сталін заставаўся непахісным у зробленым выбары — Куусінену прыйшлося здацца...

4 снежня Хельсінкскі ўрад Рысто Руці спрабаваў праз пасрэдства Стакгольма звярнуцца да савецкага ўрада з прапановай неадкладна спыніць ваенныя дзеянні і сесці за стол перагавораў. Перададзены праз савецкага паўпрэда ў Швецыі А.Калантай адказ ашаламіў Руці. Аказвалася, што СССР не толькі не знаходзіцца ў стане вайны з Фінляндыяй, а, наадварот, заключыўшы ваенны саюз, дапамагае фінскаму народу ў яго барацьбе за вызваленне Фінляндыі ад шайкі хельсінкскіх белабандытаў.

Гэты зігзаг сталінскай дыпламатыі даў свой плён. Менавіта тады зводкі інфармацыйных агенцтваў гаварылі аб тым, што фінскія салдаты на фронце атрымалі загад-закліканне стаяць насмерць. Менавіта з гэтага дня зводкі з фронту ўсё часцей пачынаюць вызначаць супраціўленне фінскай арміі як "лютае", "адчайнае", "раз'юшанае".

Між тым ваенны саюз на тое і саюз, што мае на ўвазе ўдзел у ім хаця б двух саюзнікаў. І гэты саюзнік быў створаны, што называецца, з паветра. У Ленінградзе пачаў фарміравацца Першы Фінляндскі корпус, ядро якога склалі інгерманландцы-фіны, ураджэнцы Карэліі і поўначы Ленінградскай вобласці. Адзяваць салдат "незалежнай" арміі ў чырвонаармейскую форму паказалася пераборам нават Сталіну. Фінскай жа ў такой колькасці проста не было. Што рабіць? Рашэнне знайшлося нестандартнае: з захопленых у верасні пад Беластокам пакгаўзаў у Ленінград самалётамі тэрмінова перакінулі вялікую колькасць польскай армейскай формы. Славутыя польскія канфедэраткі заменены шапкамі, спораты шаўроны з белакрылым арлом — і вось ужо фінскія валанцёры з песнямі маршыруюць па Ленінградзе ад Дварцовай плошчы да Фінляндскага вакзала. Корпус бераглі ад баёў — ён прызначаўся для ўрачыстага ўступлення рэвалюцыйных фінскіх войскаў у Хельсінкі.

Гэтага не атрымалася. Корпус, які так і не панюхаў пораху за ўсю вайну, спыніў існаванне разам з урадам Отта Куусінена, які заявіў аб сваім самароспуску за некалькі дзён да заканчэння ваенных дзеянняў.

8 снежня пастаянны прадстаўнік Фінляндыі ў Лізе нацый зрабіў надзвычайную заяву адносна таго, што яго краіна падверглася неправакаванай агрэсіі з боку СССР. "Савецкі Саюз, — заявіў прадстаўнік, — парушыўшы Дагавор аб ненападзе і мірным уладжванні канфліктаў, атакаваў Фінляндыю на ўсім працягу граніцы. Апрача атакі пагранічных раёнаў, ён падверг бамбардзіроўцы з паветра адкрытыя фінскія гарады, у выніку чаго ёсць ахвяры сярод мірнага насельніцтва..."

У назначаны для заслухоўвання бакоў дзень савецкі прадстаўнік на пасяджэнне Лігі нацый не з'явіўся. Вынік вядомы. СССР большасцю галасоў выключаўся з членаў Лігі.

## І вось вынік — 272 тысячы забітых, раненых і абмарожаных

Справы на фронце складваліся дрэнна. Фінская абарона мацнела, наступленне савецкіх войск выдыхалася. Ударылі траскучыя, рэдкія нават у гэтых суровых паўночных лясах маразы. Ва ўмовах наступлення яны аказаліся лютым ворагам. Мерзла ўсё: ператваралася ў ледзяную каросту артылерыйская змазка, бохан хлеба станавіўся камянём, рукі прыліпалі да металу. Пра людзей і гаварыць не прыходзіцца: шынель ад такога марозу — не ахова!.. Былі, праўда, і паўкажушкі, былі кажушкі, але мала, у асноўным у артылерыстаў. Ды і нязручныя яны — салдат у кажусе, як мяшок, — нязграбны, непаваротлівы. Іншая справа фіны! Іх брыгады і батальёны былі падрыхтаваны да "палярнай" вайны вельмі добра. Шарсцяная бялізна, світэры, тоўстыя ватныя штаны, боты на футры, доўгавухія аўчынныя шапкі — усё цёплае, лёгкае, зручнае. Кожны салдат забяспечаны белым маскхалатам, лыжамі са славутай карэльскай бярозы. Да слова, на лыжы станавілі літаральна ўсё: абозныя павозкі, кулямёты, лёгкія гарматы, санітарныя фургоны. Усё гэта ва ўмовах баёў у заснежаных паўночных лясах дазваляла бясшумна і вельмі хутка манеўраваць значнымі сіламі. Істотна горш абстаялі справы з цяжкім узбраеннем: пры нядрэннай артылерыі адчуваўся недахоп танкаў і баявых самалётаў. Манергейм меў некалькі дзесяткаў старых французскіх танкаў "Рэно" і нязначную колькасць самалётаў, у асноўным біпланаў устарэлых англійскіх, французскіх і італьянскіх марак. Ды яшчэ Гітлер, яўна для дэманстрацыі сваіх "сімпатый" да Масквы, паднёс сюрпрыз учарашняму саюзніку: 30 новенькіх італьянскіх знішчальнікаў "Фіат", адпраўленых фінам па ўказанні Мусаліні, былі інтэрніраваны на тэрыторыі Германіі, так і не трапіўшы да атрымальніка.

Да канца снежня наступленне савецкіх войск канчаткова застапарылася. Лінія фронту на Карэльскім перашыйку практычна стабілізавалася ў 50—70 кіламетрах на паўночны захад ад старой граніцы.

З Масквы дамагаліся прасоўвання наперад. Прасоўвання, чаго б гэта ні каштавала: за наступленнем Чырвонай Арміі пільна сачыла ўся Еўропа. І наступаўшыя дывізіі рабілі ўсё, што маглі, праяўлялі салдацкую мужнасць і ратную доблесць.

Трагедыя савецкай воінскай групоўкі заключалася ў тым, што лёс дзесяткаў тысяч байцоў быў давераны такім "стратэгам", як Цімашэнка, Мехліс, Варашылаў, Жданаў (былы член Ваеннага савета). Іх бяздарнасць, жорсткасць, якая выдавалася за цвёрдасць, недаацэнка праціўніка аплачваліся крывёю тысяч салдат і камандзіраў. Асабліва шмат было параненых і абмарожаных. Адбілася пасрэдная падрыхтаванасць санітарнай і аўтамабільнай службаў. Здаралася, што з-за немагчымасці хутка вывезці раненых у тыл яны замярзалі насмерць або паміралі ад страты крыві. У той час, калі фіны без асаблівых праблем вывозілі сваіх раненых на хуткіх санях, нашы маламоцныя санітарныя "ЗІСы" натужліва буксавалі ў глыбокім снезе.

Адзіна надзейным сродкам ад марозу аказаўся спірт. Месца нараджэння славутых франтавых "наркамаўскіх ста грамаў" — менавіта фінская вайна. Снайперам наогул давалі па цэлай бутэльцы. Снайперская дуэль — паляванне. Паляванне адзін на аднаго двух трэніраваных, падрыхтаваных стралкоў, патрабаваўшае часта шматгадзіннага ляжання ў снезе без шораху і руху.

З фінскімі снайперамі, якія наносілі адчувальны ўрон пяхоце, давялося сутыкнуцца з першых жа дзён ваенных дзеянняў. За ўпадабаную манеру весці агонь з дрэў нашы байцы называлі іх "зязюлямі". Падчас, пачаўшы "кукаваць", такая зязюля прымушала залегчы ў снезе цэлую роту. Паспрабуй, здагадайся, адкуль б'е снайпер — лес вялікі, і гулкае рэха выстралаў, якое гучала сярод скалаў і дрэў, толькі яшчэ больш заблытвала шлях да "гнязда". У савецкай пяхоце знайшліся таёжныя паляўнічыя — сібіракі, якія і прыдумалі эфектыўны спосаб барацьбы з ляснымі снайперамі. На дапамогу прыйшлі сабакі. Пушчаная наперадзе лайка, бясстрашна лавіруючы паміж снежнымі фантанчыкамі куль, упіралася пярэднімі лапамі ў ствол і моцна лаяла. Гэта азначала — наверсе вораг. Сасну тут жа бралі ў апрацоўку два-тры ручных кулямёты і прашывалі густую крону да сантыметра.

Напярэдадні новага, 1940, года Сталін на экстраным ваенным савеце патрабаваў дамагчыся рашучых поспехаў у самы бліжэйшы час. Кожны новы дзень вялых перастрэлак, разведак боем, артылерыйскіх дуэлей наносіў адчувальны ўрон прэстыжу і аўтарытэту Чырвонай Арміі.

Пачынаецца тэрміновая перакідка дывізій з унутраных акруг — Кіеўскай, Харкаўскай. У раскіслай кашы ўкраінскай зімы апранутыя ў шынелі і пілоткі маршавыя роты ў аўральным парадку грузілі ў цяплушкі, туманна абяцаючы: "З зімнім рэчавым забеспячэннем разабрацца на месцы". Аднак на месцы, як правіла, станавілася ўжо не да таго: жорны вайны патрабавалі ўсё больш і больш чалавечага матэрыялу.

І вось пасля Новага года баявыя дзеянні аднавіліся. Натуральна, адразу ж узраслі страты. І як! Палявыя шпіталі не спраўляліся з патокам раненых. На дапамогу прыйшоў Ленінград, у хуткім часе, урэшце, захліснуты гэтым патокам. Цяжкія страты неслі і фіны. Гора ў тысячах казённых канвертах разляталася далёка па абодва бакі лініі фронту. А якімі, скажыце, палітычнымі або ваеннымі дывідэндамі можна змерыць гора маці, страціўшай адзінага сына?

Галоўнакамандуючы фінскай арміяй маршал Карл Густаў Манергейм быў цвёрдым і стрыманым чалавекам. Будучы даўнім і перакананым антыкамуністам, ён ніколі не апускаўся да пячорнага нацыяналізму, да нянавісці да рускіх як да народу. Мабыць, гэтая якасць у яго выпрацавалася за доўгія гады, праведзеныя на расійскай ваеннай службе. Фінскі барон быў не апошняй фігурай у колах царскага генералітэту. Ён даслужыўся да эпалет генерал-лейтэнанта, камандаваў адной з лепшых у рускай арміі кавалерыйскай дывізіяй. Бачна, дзякуючы сваёй адданасці і стараннасці Манергейм быў заўважаны імператарам Мікалаем і наблізаны да двара. Ён не адносіўся да таго тыпу людзей, якія ў залежнасці ад палітычнай кан'юнктуры мяняюць свае прыхільнасці, як пальчаткі: на працягу ўсёй "зімняй" вайны на стале галоўнакамандуючага ў яго стаўцы ў Мікелі прастаяла фатаграфія з дароўным надпісам і прыпіскай, зробленай рукой маршала: "Гэта мой гасудар". Пагадзіцеся, ва ўмовах вайны з Расіяй гэты ўчынак раздражняў у афіцыйным Хельсінкі многіх.

Стары служака вельмі добра ведаў рускага салдата: яго самаадданую стойкасць у абароне, узаемавыручку ў баі, нястрымны націск і адвагу ў наступленні. І галоўным контраргументам ён выставіў тую магутнейшую сістэму фартыфікацыйных збудаванняў на Карэльскім перашыйку, якая атрымала яго імя.

Што ж уяўляла сабой гэта "фінская крэпасць"? Подступы да першай лініі былі прыкрыты глыбокім перадпольем, шчодра насычаным дзотамі, засекамі, заваламі,міннымі палямі. Фіны ўзарвалі практычна ўсе масты праз камяністыя лясныя рэкі і вузкія гарлавіны азёр. Інжынернае ўмацаванне ў спалучэнні з балотамі, вузкімі дэфіле азёр рабілі гэту мясцовасць цяжкапраходнай для наступаючых.

Кожны вузел супраціўлення абараняўся палявой і казематнай артылерыяй і пяхотай сілаю да двух егерскіх батальёнаў. Звычайна вузел з'яўляўся няправільным прамавугольнікам у чатыры кіламетры па фронце і два кіламетры ў глыбіню. Ён налічваў да трыццаці доўгачасовых агнявых кропак (дотаў), якія складалі яго бетонны касцяк. Прамежкі паміж дотамі былі запоўнены разгалінаванай сеткай траншэй, акопаў і хадоў зносін, прыкрытых зноў жа засекамі, ляснымі заваламі, супрацьтанкавымі "воўчымі ямамі" і складанай сістэмай інжынерных загарод. Да прыкладу, адзін з дотаў меў перад фронтам 45 радоў калючага дроту. Прама ў гэтым драцяным полі было раскідана ў шахматным парадку дванаццаць радоў супрацьтанкавых бетонных надоўбняў. Малюнак давяршала "асарці" з соцень супрацьтанкавых і супрацьпяхотных мін. Кожны дот меў баявыя казематы, арсенал, калідоры са спускамі ў казарму, электрастанцыю, машыннае аддзяленне, афіцэрскі пакой, кухню, прыбіральню, лазы ў бранякупал. Доты былі разлічаны нават на прамое пападанне гаўбічных снарадаў.

Выходзіўшыя ў тыл адсечныя пазіцыі праз пяць кіламетраў злучалі галоўную паласу абароны з паласой тактычных рэзерваў. Яна мела 39 дотаў і 178 дзотаў з той жа сістэмай палявога запаўнення.

Яшчэ праз сем кіламетраў ляжала трэцяя лінія абароны, якая складалася з чатырох вузлоў супраціўлення.

І, нарэшце, у непрыступную крэпасць быў ператвораны Віïпуры (Выбарг). Фіны фактычна зрабілі з яго асабліва магутны ўмацаваны раён. Апорнымі пунктамі сталі грамадскі дом, муніцыпалітэт, могілкі, іпадром. Горад ператварыўся ў велізарнага жука, пакрытага жалезабетонным панцырам. У выпадку асаблівай неабходнасці абарона ўзмацнялася затапленнем тэрыторый к усходу ад яго шляхам узрыву плаціны Сайmaанскага канала.

Прадугледжана было, здавалася, усё аж да мініравання льдоў Выбаргскага заліва. І ўсё-такі лінію Манергейма прарвалі!..

Прарвалі менавіта ў лоб, растапліваючы крывёю льды балот і азёраў, перасягаючы мяжу чалавечых магчымасцей.

Адзін з фінаў, які ўдзельнічаў у гэтай бітве, успамінаў: "Спачатку некалькі гадзін біла ваша артылерыя. Гэта быў сапраўдны ад, быццам усе чэрці разам павылезлі з балот. Нам пашанцавала — мы адсядзеліся ў каземаце, а ад другога ўзводу, які не паспеў пакінуць траншэю, засталося шэсць чалавек. А потым ланцугамі пайшла ваша пяхота. Яна іша так густа, што мы не паспявалі перазараджаць стужкі. Ствол раскаляўся дачырвана — і, ніводная куля не ляцела міма цэлі. А вашы салдаты па штабелях трупаў працягвалі паўзці наперад. Потым зноў падымаліся з вінтоўкамі. У поўны рост. З аднымі вінтоўкамі. Гэта было дзікім вар'яцтвам. Наш унтэр сказаў: "Яны чартоўскі храбрыя хлопцы, але ў іх там наверсе хтосьці, бясспрэчна, звар'яцеў".

Нарэшце справа скранулася з мёртвай кропкі. Цаной тытанічных намаганняў, нябачнага гераізму салдат і камандзіраў галоўная паласа фінскай абароны была прарвана. 7-я і 13-я арміі працягвалі развіваць наступленне, спатыкаючыся аб доты і ўмацаваныя агнявыя пазіцыі.

Трэба сказаць, што фіны здаваліся ў палон крайне рэдка. У асноўным іх бралі не па добрай волі — або раненых, або заставшы знянацку. У карысць гэтага гаворыць хаця б той факт, што за ўвесь час ваенных дзеянняў у савецкім палоне аказалася менш адной тысячы фінскіх салдат і афіцэраў. А іншы раз пры допыце палоннага фінскага салдата, да здзіўлення прысутных, выяўлялася, што ён... ледзь-ледзь гаворыць па-фінску!

Высветлілася, што ў вучэбных лагерах фінскай арміі шмат іншаземцаў. Гэтыя добраахвотнікі прыбывалі ў Фінляндыю з усіх краін Еўропы. Быў нават адзін грамадзянін Партугаліі. Але больш — скандынаваў — шведаў, нарвежцаў. Шведаў наогул набралася цэлая стралковая брыгада, колькасцю больш васьмі тысяч штыкоў. Камандаваў ёю генерал Ландэр.

Што прывяло сюды, у заснежаную Фінляндыю, гэтых людзей з розных куткоў свету? Былі тут і "джэнтльмены ўдачы", і шукальнікі ваенных прыгод. Але ёсць звесткі, што былі і валанцёры, зусім нядаўна ваяваўшыя ў іспанскіх інтэрбрыгадах...

...У Лапландыі, на паўночным участку савецка-фінскага фронту, фактычна ўсім кіраваў былы ў той час начальнікам Палітычнага ўпраўлення РСЧА армейскі камісар 1-га рангу Мехма. Гэты, што называецца, да мозгу касцей аддадзены Сталіну чалавек лічыўся ў арміі "шэрым кардыналам". Яго, жорсткага і запальчывага чалавека, аднаго з галоўных арганізатараў рэпрэсій сярод вышэйшага каманднага саставу РСЧА, шчыра пабайваліся нават камандармы. Яго ўмяшанне ў кіраванне войскамі часцей за ўсё было згубным...

Па яго ўказанні паўночная групоўка войск прыйшла ў рух. 44-я стралковая дывізія, будучы на вастрыні ўдару, пасля кароткага бою прарвала фінскую абарону і пачала хуткае прасоўванне наперад. Між тым фінам энергічнымі флангавымі ўдарамі ўдалося закрыць за ёй праход, адрэзаўшы такім чынам дывізію ад асноўных сіл.

Некалькі дзён у лютую сцюжу ў поўным акружэнні вялі найцяжэйшыя баі часці дывізіі на прарыў. Нарэшце гэта ўдалося. Але якой цаной! Вось вытрымка з тэрміновай тэлеграмы Мехліса Сталіну: "...44-я дывізія пакінула праціўніку 79 гармат, 37 танкаў, 130 станкавых кулямётаў, 150 ручных кулямётаў, 6 мінамётаў, 150 аўтамабіляў, усе радыёстанцыі, увесь абоз. З акружэння выйшла толькі палова асабовага саставу, прычым да 40 працэнтаў без зброі. Раненых і абмарожаных — 1057 чалавек. Фактычна ад дывізіі засталіся толькі артполк і медсанбат..."

Над камандаваннем дывізіі Мехліс арганізаваў паказальны ваенна-палявы суд. Пасля пяцідзесяціхвіліннага разбору камандзір дывізіі палкоўнік Вінаградаў, начальнік штаба палкоўнік Волкаў і начальнік палітаддзела палкавы камісар Пархоменка былі расстраляны перад строем...

28 лютага супраціўленне фінаў на лініі Манергейма спынілася.

Раніцай 13 сакавіка паў Выбарг.

У гэты ж дзень роўна ў дванаццаць гадзін замоўклі пушкі. Вайна закончылася.

Па ўмовах міру Фінляндыя пазбаўлялася ўсяго Карэльскага перашыйку, Выбарга, Сартавалы, шэрагу тэрыторый у паўночнай Карэліі. Да СССР поўнасцю адышлі паўвостравы Рыбачы і Сярэдні.

Чаму ж менавіта тады, у пачатку сакавіка, ваюючыя бакі прыйшлі да вываду аб неабходнасці заключыць мір?

Перад Чырвонай Арміяй, якая толькі што прарвала лінію Манергейма, шлях на Хельсінкі, здавалася, быў адкрыты. Аднак у Еўропе бачна ўзнімалася хваля незадавальнення апошнімі падзеямі і прасоўваннем савецкіх войск. Больш таго, стотысячны англа-французскі экспедыцыйны корпус быў гатовы высадзіцца ў фінскіх партах па першым звароце ўрада. Далей. Нашы страты былі страшэннымі: больш 272 тысяч забітых, раненых і абмарожаных. 17 тысяч ваеннаслужачых прапалі без весткі... Цяжкімі былі і страты Фінляндыі: 25 тысяч толькі забітых, не лічачы раненых, — страшная лічба для яе невялікага чатырохмільённага народа! Апрача таго, працягваць баявыя дзеянні з дапамогай французаў і англічан на справе азначае ператварыць краіны ў тэатр ваенных дзеянняў новай сусветнай вайны. Тады, у сакавіку, у Хельсінкі гэтага вельмі баяліся...

"І калі б не "зімняя вайна", у якой мы страцілі дзесятую частку тэрыторыі, Фінляндыя, мабыць, не стала б саюзніцай Гітлера ў сорак першым, аддаўшы перавагу нейтралітэту "шведскага варыянту", — лічыць прафесар Хельсінкскага універсітэта Юкка Невакіні, — фінская армія рушыла ў тое лета толькі забіраць адабранае".

Хто ведае, хто ведае... Хаця з паважаным прафесарам можна паспрачацца: як вядома, у сорак першым фінскія часці, дайшоўшы да старой граніцы, не задумваючыся перайшлі яе, акупіравалі амаль усю Карэлію, занялі ўжо ніколі не быўшы фінскім Петразаводск і былі поўныя рашучасці рушыць далей, на Котлас і Волагду. Бязглуздыя ідэі наконт "граніцы на Урале" зноў былі выцягнуты на свет божы з пыльных куфраў.

"Зімняя" вайна сёння ў Фінляндыі не забыта. Аб ёй па-ранейшаму гавораць, пішуць, спрачаюцца. І з новай сілай цікавасць да падзей той далёкай зімы праяўляецца зараз...

# ГРУЗОПЕРЕВОЗКИ

| Фирма | Лицензия № | Марка а/м | Дальность | Цена | Тоннаж | Особенности. Тип кузова | Телефон |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| "МАНТРАНС" | АЕ1-1020 от 21.07.97 по 20.07.2002 | МАН 14-192 | РБ, СНГ | от 0,20$ | до 7 т, 32 м³ | Фургон, изотерма | (017) 211-58-31, 259-08-82, сотовый 8-029-276-82-21 |
| | Все транспортные средства имеют санпасторта, форма оплаты любая, постоянным клиентам предоставляются скидки | МАН 16-240 | РБ, СНГ | от 0,20$ | до 7 т, 33 м³ | Тент | |
| | | Мерседес 1424 | РБ, СНГ | от 0,24$ | до 12т, 50 м³ | Тент, изотерма | |
| | | МАН 19-361 | Регион любой | от 0,45$ | до 20т, 82 м³ | Тент | |
| | | МАН 15-240 | | от 0,45$ | до 14т, 120 м³ | Тент | |
| | | МАН | СНГ, В. Европа, РБ | от 0,50$ | до 20т, 70 м³ | Рефрижератор | |
| Ч/П Пригожий | АЕ1-1765 от 20.04.98 по 2003 | ГАЗ 63 | Минск, СНГ, РП | от 0,10$ | до 2т, 12 м³ | Металлич. фургон, санпаспорт | (017) 264-29-05 |
| | | VW | | Хорошая | до 1 т, 6 м³ | Санпаспорт, 2 места | |
| Ч/П | АЕ1-1855 от 2.04.98 по 2003 | ИВЕКО 95 г.вып. | СНГ | от 0,14$ | до 2т, 12 м³ | Цельный, металлический, 2 места | (017) 239-48-74, 8-029.477 47-52 |
| ООО "Аклеон" | АА1-4579 от 28.01.98 по 27.01.2003 | Евромашины | Минск, РБ, СНГ, Европа | Дог. | 1-20т, 1-100м³ | Тент, металлич. фургон, TIR, CARNET | (017) 262-93-61, 253-90-56 |
| ПКОО "Поркко" | АА1-4580 от 20.01.98 по 19.01.2003 | МАЗ 64229 | СНГ | 0,40$ | 20т, 68 м³ | Тент | (017) 253-66-35, 253-98-34 |
| | | Рено-траффик | | 0,16$ | 1,5т, 8 м³ | Цельный, металлический | |
| | | Мерседес | | Хорошая | 7т, 30 м³ | Тент | |
| Тимур | АЕ1-0208 от 26.03.96 по 28.03.2001 | Мерседес | В.Европа, Балтия, СНГ, РБ | Дог. | 3-6т, 30 м³ | Тент, фургон, TIR | (017) 256-27-24 |
| Инесса | Г-9030 от 10.10.94 по 9.10.99 | Любая | Регион любой | Дог. | От 1 до 23т | Тент, рефрижератор | (017) 210-22-85, 51-76-04 пейджер 211-00-00 аб. 80055 |
| Организация | АА1-1993 выд. 10.01.97 до 2002 | ИФА-50 | Снг, Европа, Прибалтика | Дог. | до 8т, до 43 м³ | TIR | (017) 286-88-25, пейджер 211-00-00 аб. 70613 |
| | | Ивеко 4910 | Снг, Европа, Прибалтика | Дог. | 2,5т, 15 м³ | | |
| АМИР | АЕ1-0775 от 14.04.97 по 13.04.2002 | Форд-Транзит | СНГ, Европа, РБ | от 0,20$ | 1-3т, 8-20м³ | TIR, прицеп, перевозим автомобили | (017) 222-23-02 |
| Т.Е.В. | Г1-2486 от 7.04.95 по 6.04.2000 | МАЗ | СНГ | от 0,4 | 20т | Тент | (017) 273-99-72, 273-99-42 |
| | | Газель | | | 1,5т | | |
| Беларуская Грамата | Г1-3292 от 29.05.95 по 28.05.2000 | Мерседес 814 | СНГ, Литва | от 0,15 | до 1-5т, 9-28 м³ | 2 спальника | (017) 256-66-34, 243-18-18 |
| | | Люблин | | | от 1-3т, до 20 м³ | Тент | |
| | | ЗИЛ 5301 | | | | | |
| ИП "Автоград" | АКА1-0307 от 28.09.98 до 2003 АА1-5550 от 18.05.98 до 2003 | Мерседес-310D | РБ, СНГ, Европа | Дог. | 1,5, 11 м³ | 12 пассажиров | (017) 254-72-21, 236-99-43 |
| | | VW LT-35 | РБ, СНГ, Европа | от 0,2 | 1,5т, 11 м³ | 12 пассажиров | |
| Данэкс-М | АА1-5129 от 20.03.98 по 19.03.2003 | Мерседес-407D | город, РБ, СНГ | от 0,15 | 2т, 10 м³ | Фургон | (017) 252-25-87, 252-96-79, вечером 248-96-23 |
| | | МАЗ-5337 | город, РБ, СНГ | от 0,28 | 8-15т, 21-44 м³ | Тент | |
| АСКЕНТ | АЕ1-0244 от 29.04.96 до 2001 | Мерседес-407 | СНГ, Европа, РБ | от 0,18 | 2,5т, 10 м³ | Фургон, TIR | (017) 251-42-23, 271-69-56 |
| "МАЛЬВИНА" | АЕ5-0062 от 07.12.1995 по 2000 | МАЗ, МАН, Скания | СНГ, Европа, РБ | Дог. | от 5 до 20т | Тенты | (01513) 2-12-72 |
| ОРГАНИЗАЦИЯ | Г-14589 от 23.08.95 по 2000 | СеперМАЗ | СНГ | Дог.(Б/Н) | 20т, 68 и 82 м³ | Тент | (017) 213-62-89 |
| Евротехтранс | Г1-6389 от 11.10.95 по 2000 | МАН 14192 | СНГ, Европа, РБ | Дог. | 8т, 21-35 м³ | Тент, TIR | (017) 236-70-61 пейджер 249-00-00 аб. 2825 |
| | | IVEKO 24036 | | | 20т, 82 м³ | Рефрижератор, пневмоTIR | |
| | | IVEKO 19036 | | | 24т, 82 м³ | Тент, пневмоTIR | |
| Ч/П | АА1-5580 от 22.05.98 пго 2003 | ИФА | СНГ, РБ | Дог. | 5т, 19 м³ | Тент | (017) 286-66-95 |
| ИНТЕРСТАЛЬ | АА1-6822 от 17.12.98 по 2003 | ЗИЛ-4331 | Минск, РБ | Дог. | до 7 тон | Бортовой | (017) 210-51-17, 210-51-26, 210-51-35 |
| РОДНИК | АА1-1414 от 16.09.96 по 2001 | Мерседес | СНГ | Дог. | 8-24т, до 80 м³ | Тент, рефрижератор | (017) 544-50-88, 544-50-86 |
| "ПРАГОТ" | АА1-6969 от 03.02.99 по 2004 | Разные | СНГ, РБ | Дог. | 20т, до 82 м³ | Тент | (017) 226-32-45, 226-32-89, 272-24-90 |
| Ч/П | АА1-5576 от 22.05.98 по 2003 | КаМаз | СНГ, РБ | Дог. | 10-20т, 30-50 м³ | Тент | (017) 257-00-75 |
| Ч/П | АЕ5-0859 от 10.04.98 по 2003 | МАЗ 54323 | СНГ, в. Европа, Балтия | Дог. | до 20т, 82 м³ | Тент, TIR | (8-01596) 20196, 21155 |
| Ч/П | АА1-5581 от 23.03.98 по 2003 | Мерседес-1313 | СНГ, РБ | от 0,20 | до 7т, 37 м³ | Фургон | (017) 274-76-56, 260-22-00 |
| Ч/П | АА1-6149 от 19.08.98 по 2003 | МАН 14192 | СНГ, РБ | от 0,20 | 8т, 21-35 м³ | Фургон (сан. паспорт) | (017) 238-57-24 |
| ТАУП-М | АА1-5576 от 22.05.98 по 2003 | Газель | СНГ, РБ | от 0,1 | 1,5т | Тент | (017) 285-49-69, 249-82-02 |
| СКАНЭКС | ААА!-от 4.11.95-по 2000 Г-10158 от 9.12.94 по 11999 | Мерседес | Зап.Европа | Дог. | 20-24т | Тент 82-90 м³, пневмоподвеска | (172) 216-21-43, 224-82-67 276-32-57 (сотовый) |
| | | ДАФ | Страны Скандинавии | Дог. | | | |
| | | Скания | С.Петербург (попутно) | Дог. | | | |
| БЕОР | АА1-5314 от 11.04.98 по 2003 | МАЗ | СНГ, РБ | от 0,22 | 14т | Прицеп-площадка 12м | (8-01777) 5-09-81, 5-47-05 |
| Ч/П | АА1-5576 от 22.05.98 пго 2003 | ЗИЛ | СНГ, РБ | Дог. | 5т, 18 м³ | Тент | (017) 215-06-96 |
| Ч/П | АА1-7160 до 2004 | VW, ГАЗ | СНГ, РБ, Минск | от 10 | 1-2т, 5-12м³ | Метал. фургон, сан. паспорт (2 места) | (017) 264-29-05 |
| Ч/П | АА1-5580 от 22.05.98 пго 2003 | 207 | СНГ, РБ, РП, Минск | Дог. | | Фургон | (017) 285-35-70 |
| ЗАО "АРКО" | АЕ-50672 до 2000 г. | МАЗ+МАЗ9758 | СНГ, в. Европа | Дог. | 82 м³ | Пневмо | (8-01561) 45-533 |
| | | КАМАЗ+ОДА39786 | СНГ | | 19т | Рефрижератор | (8-01561) 44-424 |





## "Новае кіно Тайваня"

10 мая ў Мінску адкрыўся фестываль тайваньскіх фільмаў "Новае кіно Тайваня", арганізаваны беларускай асацыяцыяй "Кінаклуб" пры садзейнічанні прадстаўніка Тайбэйскай гандлёва-эканамічнай місіі ў Мінску Туана Пэй-Луня. "Асноўная мэта фестывалю, — гаворыцца ў пісьмовым звароце адносна гэтага спадара Пэй-Луня, — паказаць нашым беларусім сябрам сучаснае тайваньскае кіно і дапамагчы ім даведацца больш аб нашай культуры і мастацтве".

На фестывалі, які працягнецца да 17 мая, будуць прадстаўлены пяць фільмаў: "Сёння ніхто не пойдзе дадому", "Віхурыцца барвовы пыл", "Трапічныя рыбкі", "Пыл мітуслівага жыцця" і "Анемічная кветка". Паказ карцін будзе праходзіць у тэатральнай зале Палаца культуры прафсаюзаў.

Як адзначыў у сваім артыкуле, прысвечаным кінематаграфіі Тайваня, вядомы расійскі кінакрытык С.Торапцаў, ужо напачатку 80-х гадоў сталі з'яўляцца творы новай генерацыі, яшчэ кантынентальнай па сваім паходжанні, але ўжо тайваньскай па адукацыі і выхаванні. У традыцыйным кітайскім кіно, якое было асноўным выказнікам аўтарскай думкі і ідэі, акцэнт перанесены з сюжэту і тэмы на фабулу і інтанацыю; самамэтай станавіліся не падзеі, а псіхалагічная аснова дзеяння. Так пачалося новае кіно Тайваня, і крытыкі рэзюміравалі, што з'явілася мастацтва, якое стаіць на вялікай адлегласці ад звыклай кінематаграфіі. Слабасцю "новага кіно", на думку кінакрытыкаў, стала яго элітарнасць, грэбаванне звыклымі глядацкімі звычкамі; сіла ж заключаецца ва ўздзеянні на кансерватызм успрымання, у фарміраванні новага гледача.

**Марыя ПЯТРОВА, БелаПАН.**

## Продолжается следствие по факту обнаружения в Гомельской области 16 противопехотных мин

Петриковский отдел Управления КГБ по Гомельской области продолжает следствие по факту изъятия во дворе дома управляющего отделения местного совхоза "Мышанский" 16 противопехотных осколочных мин.

Уголовное дело было возбуждено в конце апреля. Установлено, что управляющий названного отделения Георгий Попок в бытность работы обыкновенным трактористом нашел мины в 1977 году при заготовке глины близ деревни Мышанка. Находку он припрятал, сложив мины в молочный бидон, однако утверждает, что продавать их не собирался. В то же время, Г.Попок не посчитал необходимым избавиться от трофея, хотя и безопасного (у мин не было взрывателей). По словам директора совхоза "Мышанский" Владимира Пограновского, Г.Попок был толковым управляющим, и как к работнику он не имел к нему претензий. Однако из-за этого случая директор совхоза считает, что, скорее всего, ему придется изменить свое мнение к подчиненному.

**Ирина МАКОВЕЦКАЯ.**

## Белавежская пушча рыхтуецца да святочных мерапрыемстваў у сувязі з 60-годдзем з дня прысваення ёй статуса запаведніка

Паводле слоў намесніка генеральнага дырэктара парку Міхаіла Жураковіча, урачыстыя мерапрыемствы з гэтай нагоды запланаваны на 25 снежня, аднак ужо зараз у запаведніку пачалася рэканструкцыя вальераў, якія за 25 гадоў выкарыстоўвання маюць непрыглядны выгляд. Праект рэканструкцыі прадугледжвае таксама павелічэнне колькасці вальераў, пасля чаго наведвальнікі Белавежскай пушчы змогуць убачыць у іх мноства рэдкіх жывёл — напрыклад, лань, якая знікла з беларускай часткі пушчы яшчэ да пачатку другой сусветнай вайны. Адноўленым прадстане да юбілейных дней і Музей прыроды: яго экспазіцыі стануць панарамнымі, а колькасць экспанатаў фаўны і флоры наблізіцца да тысячы адзінак.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Среда, 12 мая

**БТ**
06.30 Доброе утро, Беларусь!
07.00 Новости.
07.10 Доброе утро, Беларусь!
08.00 "Алло, "Событие".
08.40 Потребительская корзина. Социально-экономическая программа.
09.00 Новости.
09.10 ТВ — школе. Белорусская литература. 6-й класс. В.Короткевич. "Земля под белыми крыльями".
09.40 Видеокурс английского языка. Передача 60-я, заключительная.
10.05 Программа по письмам телезрителей "Земляки".
11.00 Новости.
11.10 Новые имена.
11.20 Телесериал "Ветер в спину" (Канада).
12.05 Компьютерный полигон.
12.25 Зорная ростань. Телеконкурс молодых артистов эстрады.
13.00 Новости.
13.15 Видимо-невидимо.
14.25 Ток-шоу "Карамболь".
15.00 Новости.
15.10 Сериал для детей "Боишься ли ты темноты?" (Канада). 2-я с.
15.35 "5 х 5". Информационно-развлекательная программа для старшеклассников.
16.05 Мультфильмы.
16.35 "Куда пойти учиться?" Средние специальные учебные заведения Республики Беларусь.
17.00 Новости (с сурдопереводом).
17.15 "А музыка звучит..." Концерт артистов российской эстрады.
17.35 "Макаенка, 9". Информационно-аналитическая программа по письмам зрителей.
18.05 Телесериал "Ветер в спину" (Канада).
18.50 Новые имена.
19.00 Новости.
19.15 "Сегодня с вами..." Заведующий отделением пластической хирургии Клинического центра пластической хирургии и медицинской косметологии Жанна Романова.
19.40 Международные спортивные новости.
20.00 Добрый вечер, Беларусь! В программе: "Разговор в прямом эфире", "Что делать?", журнал для женщин "Кошки".
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 В.Талызина в х/ф "Непрофессионалы" ("Казахфильм").
23.05 Криминальная хроника.
23.10 Белорусский хит-парад.
23.15 Королевская охота.
23.45 Новости.
23.55 "Крок-шутка". Фестиваль КВН "Славянский базар" (г.Рязань).
00.25 Темная комната. "Незаконно осужденный".

**ОРТ**
08.00, 11.00, 14.00, 17.00 Новости.
08.15 Сериал "Во имя любви".
09.15 Тема.
10.10 В мире животных.
10.50 Домашняя библиотека.
11.15 Программа "Вместе".
14.15 Сериал "Космическая полиция".
14.45 Классная компания.
15.00 Зов джунглей.
15.30 ...До шестнадцати и старше.
16.00 Сериал "Во имя любви".
17.15 Маски-шоу.
17.45 Здесь и сейчас.
18.10 Человек и закон.
18.50 Сериал "Сегун".
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.45 Хоккей. Чемпионат мира. Полуфинал. Передача из Норвегии.
22.25 Однако.

**РТР**
06.00 Доброе утро, Россия!
06.20 "У всех на устах".
06.45 Телеигра "Программа передач".
08.15 "Дежурная часть".
08.45 "Товары — почтой".
09.10 Сериал "Миледи".
10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 23.30 Вести.
15.20 "Музыка, музыка..."
15.30 Сериал "Первые поцелуи".
16.30 Башня.
17.00 "Гомеопатия и здоровье".
17.05 Сериал "Угрюм-река".
18.30 "Устами младенца".
19.40 Подробности.
19.50 Сам себе режиссер.
20.25 Футбол без границ.
20.50 Финал Кубка УЕФА.
23.15 "Дежурная часть".
00.00 Автошоу.
00.30 "Магазин на диване".

**Культура**
07.05, 11.30, 13.30, 19.30, 23.00 Новости культуры.
07.25 Р.Вагнер. Увертюра к опере "Тангейзер".
07.40 Д/ф "Все впереди", "Осенний свет".
08.30 Цветы на камень Мандельштаму.
09.25 Сериал "Берега".
10.40 "Царица муз и красоты".
11.40 После новостей...
12.00 "Пикассо и танец". "Гранд-опера".
13.45 "Страх". Страницы романа Ю.Домбровского "Факультет ненужных вещей".
13.55 "Петь России — мое призвание".
14.25 Художник Олег Целков.
15.00, 17.30 Новости.
15.10 "Лукоморье".
15.30 Мультфильм.
15.35 "Осенние портреты".
16.05 Р.Шуман. Концерт для фортепиано с оркестром.
16.35 "Эколокол" с Натальей Фатеевой.
17.00 Русское искусство.
17.40 Боярский двор.
18.10 В.Гаврилин. "Дом у дороги".
18.15 Д/ф "Из глины", "Один день с Бобом Аароном", "Живая музыка".
19.15 Чудо-сказка.
19.50 "Королевский Эллингтон".
20.50 После новостей...
21.10 Сериал "Берега".
22.20 Стихи о Венеции.
22.30 "Театр моей памяти".

**НТВ**
15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
15.30 Сериал "Государственная граница". Фильм 1-й. "Мы наш, мы новый..." 2-я с.
16.40 Впрок.
16.55 Сериал "Любовь и тайны Сансет Бич".
17.40 Криминал.
18.40 Герой дня.
19.00 Детектив "Государственная тайна".
21.45 Сериал "Детектив Нэш Бриджес".
22.40 Сегоднячко.
23.20 Сегодня в полночь.

**TV-6**
05.55, 12.10 День за днем.
07.45, 17.25, 21.55 Дорожный патруль.
08.00, 10.00, 12.00, 14.00, 17.00 ТСН-6.
08.10, 22.20 Те Кто.
08.25 Вкусная передача "Пальчики оближешь".
09.00, 18.00 Сериал "Династия 2. Семья Колби".
09.50, 14.20 Телемагазин для минчан.
10.10 Боевик "Фехтовальщик".
14.10, 23.45 "Знак качества".
14.40 Сериал "Дикая Роза".
15.35 Сериал "Келли".
16.00, 22.35 ДИСК-канал.
16.35 "В мире людей".
17.35, 00.10 Сериал "Законно ли это?".
19.00 "Новости дня".
19.30 Ток-шоу "Я сама". "Стерпится — слюбится?"
20.30 "В мире людей".
21.00 Сериал "Зов убийцы".
22.10 Шесть новостей дня.
23.10 Сериал "Дневники Красной туфельки".
23.55 "Любишь — смотри". Видеоклипы.

**8-й канал**
18.00 Программа Кеннета Коупленда.
18.30 Х/ф "Драйв".
20.00 Документальный экран.
20.30 Вечарніца.
20.45 Сериал "Моссад". 11-я с.
21.45 Музпарад.
22.00 Фильм Федерико Феллини "Интервью".



**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 229-28-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 229-29-04.
E-mail : nv@irex.minsk.by

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты надрукаваны з дыяпазітываў у ПП "Мэджык". Адрас: г. Мінск, вул. В. Харужай, 13. Падпісаны ў друк у 21.00. Фармат А-2. Тыраж: суботні — 61050 экз., у другія дні — 55000 экз. Заказ №661